№ 84 Выдавьне В.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы—2 м. 70 ф., на 1 мес.—90 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі—25 фэніг.; дробныя абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 84 (280). Год III. Вільня, 25 кастрычніка 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 24 кастрычніка.

**Заходні тэатр.**

На лініі Ліс бітвы. Наабапал Вехты мы адышлі крыху назад. Наабапал Солем і Лёкато англічане на фронце 30 кілёмэтраў пачалі свае вялікія штурмы. У даліне Гарпі іх штурм адкінены. Наабапал Ромры непрыяцель пасунуўся да Сэн-Мартэн і Бодзіні. У сярэдзіне фронту вораг задзержаны на лініі Пуа-Босі. На ўсход ад Лёкато штурмы непрыяцеля зусім адкінены. На паўдня ад Каціён штурмы не разьвіліся пад нашым агнём. Між Уаз і Сэр непрыяцельскія штурмы адкінены агнём і контратакамі. На ўсход ад Энь наступленьне непрыяцеля адкінена. На абодвух берагох Маасамэрыканцы ўзноў пачалі свае вялікіе штурмы. Яны адкінены з вельмі цяжкімі стратамі.

**Паўднёва-ўсходні тэатр.**

У ўпорных бітвах наш арьергард задзяржаў непрыяцеля і даў магчымасьць заняць новыя пазыцыі наабапал Паравін.

---

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Грамадзянства аднадушна заяўляе, што мір ня блізкі і што замірэньне можа быць зроблена толькі пад варункам зьнішчэньня на заўсёды нямецкага мілітарызма.

БЭРЛІН. «Vorwärts» піша: Згодна з прынцыпам самаазначэньня народаў мы абавязаны адчыніць вароты для тых, хто хоча высьці з Нямеччыны, але і для тых, хто хоча прысьці да нас. Для апошніх мы пастараемся зрабіць жыцьцё ў нас як можна больш прыемным.

ВЕНА, 23.X Граф Каролі заявіў Крамаржу аб гатоўнасьці ўступіць 4 вэнгерскіх комітата, населеных славакамі.

Выпушчаны з катаргі Лібкнэхт у урачыстым паходзе скіраваўся да свае кватэры. Дэмонстрацыі паліцыя аднак не пазволіла.

ПАРЫЖ (Гавас). 23.X. У сэнаце Пішон сказаў: «мы падыходзім да канца ахвяр, наложаных на нас дзікімі нападкамі.

КІЕЎ (В.Т.Б.). 22.X. Гэтман дэкрэтам прызывае пад штандары ўсіх афіцэраў, унтэр-афіцэраў і юнкероў дзеля ўтварэньня з іх апрычонных атрадаў для паддзяржаньня гасударсьцьвенага і грамадзкага парадку.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ (Агенцтва Мільлі) 19.X. Новы вялікі візір Іцэт-паша адкрыў парлямэнт прамовай, у каторай сказаў, што Турцыя, каторыя за апошнія 8 г. вядзе безперастанку вайну, умарылася і што яна жадае міра справядлівасьці. Арабскім провінцыям будзе дадзена нацыянальная аўтономія. Унутры даецца раўнапраўе ўсім нацыянальнасьцям, станам і верам. Парлямэнт згадзіўся блізу аднагалосна з гэтай праграмай, толькі 10 дэпутатаў адмовіліся ад галасаваньня.

БЭРЛІН. У Рэйхстаг пададзена дамаганьне, каб нямецкая ўлада зараз-жа вярнула поўную свабоду жыхарам занятых усходніх зямель, што ёсьць у Нямеччыне як ваенна-палонныя, цывільна-палонныя, або работнікі.

ЧОРНАВІЧЫ. Настрой у Румыніі проціў габінэту Маргілёмана павялічаваецца. Навет яго прыхільнікі лічацца з хуткім яго ўпадкам. Пануе перакананьне, што румынскае пытаньне знаходзіць узноў добрыя магчымасьці. Вялікарумынскія пляны ўзноў падняліся.

БЭРЛІН. 24.X. Незалежныя соцыялісты дамагаюцца, каб Рэйхстаг выбіраўся што год нанова.

БУДАПЭШТ. 23.X. Міністэрства Вэкэрле аканчацельна падало у адстаўку. Новае міністэрства будзе складзена з усіх партый, у тэй лічбе соцыял-дэмакратаў і грамадзянскіх радыкалаў.

КОПЭНГАГА. 23 X. На дамаганьне ўраду члены дацкага парлямэнта будуць мець патайное засяданьне, на каторым міністэр Скавэніус дасьць аб'ясьненьне аб палажэньні.

ДРЭЗДЭН. 23.X. Міністэр культу Бэк, міністэр грашавых спраў Вайдэвіс, як пракананыя правыя, папрасілі адстаўкі.

ХРЫСТЫЯНІЯ. 23.X. Выбары паказалі вялікае паправеньне. З 43 выбраных—25 правых. У 66 вокруга выбары назначаны другім наваротам. Прэзыдэнт парлямэнту заменены правым. Правыя выгралі 8 вокругаў, левыя ўтрацілі 7.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Тут утварылася фінска - нямецкае т-ва для зьбліжэньня нямецкай і фінляндзкай культуры.

МАСКВА (В.Т.Б.). 20.X. Надзвычайная камісія для барацьбы з контрэвалюцыяй арыштавала англа-французскую шпіонскую арганізацыю пад загадам Каламацiяна.

ПЕЦЯРБУРГ (В.Т.Б.) 20.X. Надзвычайная камісія, як наказавае „Правда“, арыштавала 6220 і расстраляла 800 чал.

БЭРЛІН. (Урадова) У верасьні нашыя падводныя лодкі затапілі 440.000 тонн.

---



*Вільня, 25 кастрычніка 1918.*

Мы перажываем вялікую гістарычную часіну, калі ўсе народы пакінулі няверу і выставілі сьмела і з поўнай надзеяй свае найсьвятлейшыя жаданьні, аб каторых калісь лятуцелі толькі іх лепшыя кіраўнікі. Праўда, некаторыя народы, як прыкладам палякі, асвабаджаючыся ад чужое апекі, выказалі жаданьне паняволіць іншыя народы, але гэткіх мала, а вынятак толькі пацьвярджае правіла.

У гэты вялікі час павінен асвабадзіцца і Беларускі Народ. Беларускі Народ прад усім сьветам выказаў вялікае жаданьне незалежнасьці свае Бацькаўшчыны. Пры гэтым з самага пачатку незалежнасьць сваю мы разумелі дваяка: або незалежнасьць аднае Беларусі, або злучанай з этнографічнай Літвой, разам з каторай Беларусь калісь складала адно Літоўска-Беларускае Княства. Якая комбінацыя ў канцы возьме верх будзе залежыць як ад агульнага палітычнага палажэньня, так і ад адносін да нас нашых суседзяў літвіноў. Ідэалам кожнага беларуса ёсьць незалежнасьць усяе Беларусі. Пры гэтым ня тое важна ці Беларусь будзе незалежнай адна ці разам з Літвой, важна тое, каб беларусы ў кожным здарэньні былі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Водлуг слоў нямецкага рэйхсканцлера, каторыя ён сказаў надовічы прэзыдыуму Літоўскай Тарыбы, будзе ў скорым часе ўтвораны краёвы літоўскі ўрад з усіх нацыянальнасьцяй краю, значыцца як тэрыторыяльных літвіноў і беларусаў, так і нацыянальных меншасьцяй жыдоў і інш. Дык цяпер ад адносін да нас прадстаўніцтва літоўскага народу будзе залежыць ці будуць магчы беларусы працаваць разам з літвінамі, ці не. А гэта ёсьць канечна патрэбным. Палажэньне беларусаў і літвіноў аднолькавае. Мы маем тых самых прыяцеляў і непрыяцеляў. Паўтараюцца часы Міндоўга, стварылася такое палітычнае палажэньне, як і 1000 гадоў назад. Відаць адзін народ бяз другога ня можа абысьціся.

Каб памагчы справе Беларускага Народу ў гэты нязвычайны час, усе беларускія сьвядомыя сілы павінны быць пры працы. Трэба каб сьвет ведаў, чаго мы дамагаемся. Ад працы нашай залежыць нашая воля і доля, залежыць тое ці мы будзем гаспадарамі на сваёй зямлі ці мо' нявольнікамі ў чужнікоў. Работа ў нас павінна кіпець. Хто можа тварыць, хай творыць, хто арганізаваць, хай арганізуе і хто агітаваць, хай агітуе! Аддадзём Бацькаўшчыне ўсе свае сілы, дабро Маці-Беларусі, дабро народу вышэй усяго!

---

## НАША ДОЛЯ.

Беларуская вёска як га ачнулася. Якаясьці трывога ўзрушыла яе ад супакойнага сну. З вусн у вусны пераходзяць навіны з дзеяў апошніх дзён. Ніколі так не адчувалі патрэбы газэты, як цяпер-ака. Чаму-ж гэта так?

А таму, што дайшло дзела ўжо скуры сяляніна, долі ўсяго нашага краю. Дасюль сядзелі адны моўчкі, тахцілі грошы ў капшук, карыстаючы з голаду і гора людзкога, зьдзіраючы скуру беда кады хвалілі ў душы вайну. Лічылі, што багацелі. Толькі баяліся нападаў начных, ня былі пэўны ў сваіх сьценах і думалі, што войска нямецкае толькі затым край наш заняло, каб забаспечыць ім супакой і бараніць ад нападаў.

